УДК 821.161.3-1
ББК 84(Беи)-5
Д79

*Бібліятэка
Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка».
Заснаваная ў 2009 годзе
Выпуск 44*

Дубоўскі, В.Л.
Д79 На пачатку маўчання : кніга паэзіі / Валеры Дубоўскі. – Мінск : Юніпак, 2013. – 180 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 44).
ISBN 978-985-6802-65-5.

Гэтая кніга паэзіі ёсць чарговая спроба пранікнуцца сваёй чалавечай і агульнабеларускай самасцю, одумна яе распазнаць, спасцігнуць і, мажліва, здейсніць.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(Беи)-5**

**ISBN 978-985-6802-65-5**

Вочы.
Першапачатак пранікнення.

Душа.
Першапачатак збыцця.

Слова.
Першапачатак.

За жыццёвай
спазнанай высноваю
нам віднечаю
одум высвечвае:
што відочнае –
гэта часовае,
невідочнае толькі –
вечнае.

Пад небам чорным
Белай вежы
зблукаўся верасень
паўночы.
Яго спытаю,
што ён хоча,
каго злучыў,
каго размежыў.

Ён,пасляжнівеньскі гарэза,
расой астылай
наталіўся.
За ім і я –
блуканец высі –
пайшоў
за восеньскай
імпрэзай.

І з Камянца
ў Камянюкі
ўцёк,сляпы,
каб стаць відушчым,
на ўлонне
беларускай пушчы
без аніякае
прынукі.

Сціскаю кулак –
Ухапіць усхацелася промні.
Бясконцыя жвавыя промні
Сціскаю.
Сціскаю і выпускаю
Няўлоўнасць душы
І нябёсаў.
І лёсаў,
І лёсаў,
І лёсаў…

Сціскаю ў кулак
Угрэты стагоддзямі пыл.
Нязбыўнасць –
Як жменя адчаю.
Будзённасці
Ніцую шэрасць злучаю.
Уверх ці ўніз
Няспешна
Адольваю схіл?

Праз дарогу –
Цяжар прыпамінаў.
Праз дарогу –
Ідалы зрынуты,
Несапраўднасць жаданняў
Нявінных
І патухлы нечы
Парыў знутры.

Праз дарогу –
Вятры і прысьмеркі.
Праз дарогу –
Ахвота збуцьвелая.
Галапупы,
Магчыма і лысенькі,
І душой буду зябнуць
І целам я.

У бясконцасць,
Займальна палёглую,
Не стамлёны,
Не зачыню,
І здарожыўшыся,
Дарогу я.
Перайду.
Праз усю даўжыню.

Слухаю ноты –
дыханне пякельнае мроі,
рук матыльковы ўзмах,
позірк
нясцерпных вачэй ...

Слухаю сэрца –
абмежаванае мною
ў бязмежжы і руху
прасторы…

Слухаю неба –
зямных
парадзіху пачуццяў
і Боскіх таемных вестак …

Слухаю памяць.
Думы, роўныя часу,
злучваюць сёння
і няўяўнае заўтра …

Слухаю быццам цябе.
А чую
і ноты,
і сэрца,
і неба,
і памяць …

Выратаванне маё.

Небасхіл
за дуб учапіўся,
што зямным
усталелым навершам
абнадзейвае
кволыя высі,
як паэт–
пранікнёнасцю верша.

Урэшце
мне сэнс вядомы
і слоў,
і далёкіх дымоў.
Думаў –
дарога з дому.
Напраўдзе –
дарога дамоў.

У заўтра,
напоўненае світанкам і верай у рух,
бягу.
Множу рух.
Святлею прадчуваннем.
Не сустракаю анічога лішняга,
апроч світанка,
веры,
руху,
якія працягваюцца
і збываюцца
адлюстраваннем  у вачах тваіх.

Ты ёсць з таго,
што ёсць рух.

Я там,
Куды мяне закінуў Бог –
Здзівіць каго
Ці ад каго здзівіцца.
Нязведанасцю
Незбылых дарог
Наяве пашанцуе
Наталіцца.

Я там,
Дзе не заўсёды ёсць адказ
На ўсе пастаўленыя
Прада мной пытанні.
Дзе сэнс жыцця
Губляецца падчас
І зноў вяртаецца –
Як новае чаканне.

Я там,
Дзе заблукалыя сляды
Ад многіх і да многіх
Безупынна,
Ад першай да апошняй
Чарады
Людской
Шукаюць першыя прычыны.

Світальнай нітаўкай
Свяціцца
Прамень адзін.
Злучыць ахвочы
Святло паўдня
І змрок паўночы –
Табе прачнуцца
І аксціцца.

Прамкне хмурыну
Ён любую,
Пытаннем, выклікам
Паўстане.
Чытаю ў небе
Умаўчанне
І распытаць сябе
Спрабую.

## ПОМСТА

Змажы.
Скажы.
Зберажы.
Не змог...
І не зберагаецца...
Прышэптам
слоўнай імжы
як помста
дзень набяжыць,
сплыве –
і запозна каяцца.

І доўжыцца дзень
безупынку,
і словаў цяжар
залішні.
І суцяшэнне
ў выніку:
аблокаў
счарсцвелай скарынкай
абнашчыў цябе
Найвышні.

## БОСКІЯ КАЗЫТАНКІ

З адчаю, з ляноты
ці з крыўды, з маны –
здаецца, усе
непрыступныя ганкі.
Ды праз жыццёвыя
твае туманы
цвяліць пачынаюць
Боскія казытанкі.

Ад таго неспакою
спакойна душы.
І невыпадкова
збіраюцца гранкі.
За парогам апошнім
каб хто варушыў!..
Хоць кропля надзеі –
на Боскія казытанкі.

Даганяю свой цень,
І не магу дагнаць.
Безнадзейнасць.

Прыпыняюся,
І цень стаіць.
Нерухомасць.

Уцякаю ад ценю,
І не магу ўцячы.
Ад сябе.

## НАД БЫЛЫМ СПАКОЕМ

Дзядкі – як тыя панічы –
На лаўцы ліпеньскай тырчком
У вёсцы Лапаравічы.
Маўчаць яны, і ты маўчы,
Бо ты – не скрыпка са смычком.

Па скрыпачку бусла паслаў я,
Каб – беларусы мы ці хто мы! –
Сыйграла весела і спраўна
Ля вадасховішча Заслаўя,
Зняла ўсе прысмакі аскомы.

Ды не зубной, а той – душэўнай,
Што сцяла ўсё знутры і звонку.
Ты ж, як антонаўка, напэўна,
Не выспеў, кіслы і няпэўны
І занядбаў сваю старонку.

...Вясковай ціхай мілатою
Скрыпачыць ліпень. Дзіўна чуць.
І ты спрачаешся з сабою,
І бусел над былым спакоем,
І мак камарыкі таўкуць.

Даўняе ці будучае?
Запазычанае? Сваё?
Асяродак? Абалонка?
Жыцця? Смерці?
Цень ценяў тых, зніклых?
Вымярэнне немажлівага?
Асалода безпадставовага?
Намер?
Заспакаенне?
Няўяўнае „бздынь”?
Глупства нікому не патрэбнага,
Але ўсімі запатрабаванага
Клёку?
Выгінастая вужака?
Стырно блішчыстае і нязломнае?
Рухавы прамень?
(Пасля адлюстравання ён –
Ява, фікцыя?..).
Ён ад сонца ці ад
Вачэй тваіх?..

Слова, якое сёння
Прысніў.
І не запісаў.
Шукаю яго сэнс.

Нязмушаны чуцці
ў нязмушаных сэрцах.
Нязмушана слова сваё
выгушквай.

Ад пралятаючай
нязмушана
птушкі
голас яе ў вышыні
застаецца.

## ЧЫТАЮ «КНІГУ ПЕРАМЕН»

„Мяняюць гарады –
не мяняюць калодзеж”.

Мяняюць звычкі –
не мяняюць самасць.

Мяняюць галасы –
не мяняюць мову.

Сонца.
Небакрай.
Хлеб.
Кола.

Кока.
Так у дзяцінстве
мы называлі яйка.
У кожным бялку хавалася
маленькае сонейка.

Дзе б ні спыняліся мы
пасярод дня,
пасярод Свету,
бачны быў небакрай.

Можна было адкраіць лусту
жытняга бохана
з яго сонечным смакам шчасця.

Можна было глыкнуць
спатольнай прахалоды
хлебнага квасу.
Выцерці вусны
і паімчаць,
запусціўшы наперадзе
драцінай-чыркаўкай
гарэзнае
кола сонца.

… Менск
Спёка ў Траецкім.
Над Пярэспай звон.

Дзятва п’е
кока-колу.

Ў зацятае маўчанне
Роздум збег.
Маўчання – з коптурам,
А смеху – з верхам.
Як рэха не адказвае,
Змаўкае смех.
Маўчанне –
Нерассмешанае рэха.

Ах, Божа ж мой,
на холадзе сабачым,
на гарадскім тралейбусным
прыпынку,
дзе літасць задрамала
на хвілінку,
дзе немагчымасць і спазненне –
усё магчыма,
дзяўчо,
якое расцвіце ў жанчыну,

анёлак плача…

Укленчваеш вятрам скразным…
Яны, скразныя,
Век – вяком.
Яны трывожацца рыўком.
Яны раскачваюць званы.

Душой з такімі не крыві.
Для іх і небадол – адхон.
Палёт –
Як клятва на крыві.
Наўзрыў.
Наўзгад.
І наўздагон.

А кон нам выштукоўваў
Да ісціны дапасці.
Ёй – з кодавага слова.
Мне – з кодавае жарсці.

А кон нам падслугоўваў,
Прарочым знакам шчасціў.
Мне – з кодавага слова.
Ёй – з кодавае жарсці.

## БЫЎ ЧАЛАВЕК БЕЛАРУСАМ

Самы ранні
апалы лісток –
нібы чалавек,
няўрымсліва ранні,
які спяшаецца,
даўшы зарок,
на апошняе спатканне.

Ён аднойчы
мару прыснiў –
толькі з зорамі
тайнай дзяліцца.
Ад чалавечай
быць мітусьні
далей
і з дурнямі не вадзіцца.

Ён, здаецца,
зрабіў усё:
і дом,
і пры доме ганак.
Усцешваўся:
як шапаціць лісцё!
Мроіў:
як свяціць світанак!

Ногі мачыў
у золкай расе.
Асушваў часам
горкі кілішак.
Шчасціўся:
сын разумны расце.
Саромеўся:
вершы навошта піша?

Прамяніў,было,
і сам прамянеў
ад крэўных слоў
водара агністага.
Айчыны самотнай
нязніклівы спеў
слухаў –
паланэз Агінскага.

Да памяці продкаў
на куце туліўся
за бела-чырвоным абрусам.
А матчынай мовы
ледзь не пазбыўся …

Быў чалавек
беларусам.

Вага думак
у часе вагаецца.

Увасабляецца
то праўдай,
то няпраўдай.

## НЕ ХАЮ ЧАС...

Не хаю час
і не ўхваляю –
жывы і цёплы
балазе.
Ані ў пачатку,
ані з краю –
ў натоўпе
ціха я канаю.
Час-злыдзень
ходзіць
па назе.

## УСМЕШКА

За плыткім водарам
ранішняй кавы
колеру глыбокай сангіны
загаварыў я
пра вялікі
адронны калайдар
і чалавечую пыху –
жадаць паўтарэння Пачатку
светастварэння.

…Не зразумеўшы нічога,
ты ўсміхнулася ветла,
зусім не манерна.

Праводзіўшы
цябе да таксі –
драпежнага чатырохколавага
пасланніка досвітка
новаму дню,
які стоміцца разам з намі
і вернецца ў дом
усіхнім сухім разражненнем,
я кінуў дурацкую фразу,
што гэтае ўсё жыццё –
чаканне таксі пад дажджом.
Адно – мітусня.
Растрачванне бегу
з неспакою ў другі неспакой.

…І светлай усмешкай тваёй
Маўчанне мяне атуліла.

Ты ставіла сёння букет
з восеньскіх красак
і змешвала ціхія тайны
барвянага мокрага лісця,
лёгкія пахі спакою,
росквіту, скону й надзей…
Позірк мой
мусіў спатоліць
чаканне патайнай вячэры
і будучай ночы.

Сасмяглы,
я зноўку лавіў
выгіны ліній тваіх –
бы скрыпачкі той
беларускай,
якая глухога кранае.

І мне ўсхацелася
загаварыць
узнёсла, па-філасофску.
Пра веліч гармоніі гукаў.
Гармоніі выгіну ветра.
І я нешта плесці пачаў,
узрушаны, зблытаны,
спеўны.
Пра ноты, бемолі і фортэ,
невыпадковасць дыезаў
і гаваркое піяна
ў сцішанасці сваёй
сярод какафоніі,
глуму,
абсурду…

…У праніклівай
і даравальнай усмешцы
тваёй
прамаўлялі
здзіўленне й чаканне.

## СКЕРЦА

Па дню,
па кроку, па жарсціне,
па слову
склалася жыццё.
Нічый,
ніводны рух не згіне
і заўтра
ў нейчым успаміне
ён стане
новым адкрыццём.

Нагоіць
волю ў паняверцы,
расчуліць,
насмяшыць нанова,
ізноў
стурбуецца, парвецца.
Сыгранае ўрэшце
скерца,
жыццё
рассыплецца на словы...

## ДА ВЕЧНАСЦІ ТАК НЕДАЛЁКА

Да вечнасці
так недалёка.
Спакою сабе
насуроч.
Углядайся часцей
у аблокі.
А дзень
мае форму вока,
каб пазіраць
у ноч.

# ТАДЫ ЖЫВЫ

Толькі я тады жывы,
Як сябе аспрэчваю.
Па жарстве ды па жвіры
Пхнуся ўпарта да гары
Ды дзіўлюся нечаму.

## КРОК

Крок.
І сэрцы зблізіліся нашы.
Крок.
І зоркі сталі нам бліжэй.
Крок.
І зноў напоўненыя чашы.
Крок.
І лёс ходу пасцеражэ.

Крок.
І ў танцы рукі пасплялiся.
Крок.
Як прамаўленне чысціні.
Крок.
У неспасцігнутыя высі.
Крок.
Ніякі крок не праміні.

Храм нікому
Не перакрычаць.
Марна
Крыкам заклікаць
Нябёсы.
Тут прасветлай мілаты
Пячаць.
Тут сябе спрабуеш
Распачаць
Зноў,
Маўклівы,
Але шматгалосы.

## ПРА-ПРА

Мой прадзед,
праўнук і пра-пра!
Павек нам
не сустрэцца...
Мы напаткаемся
вятрам
адным.
З нас кожны паасобку, сам
вятрамі
вольніў сэрца.

## МУШУ

Акрыць цяплом
Наструненыя душы.
Знябыць утому
Спрацаваных рук
Стрымаць увоміг
Адтрымцелы гук.
Прайсці па краі
І не ўпасці мушу.

І дзень мой заўтрашні –
Сягонняшняе ўчора –
Разбіць на цуркі
Можа толькі час.
Нашчадных душ
Сімфоніі і джаз
Пачую водгукам
Мажора і мінора.

## БУДСЛАЎ

Уздых званоў –
як блаславенне –
сыйшоў,
нібыта з Боскіх вуснаў.
Спагаду дзень
ахвярнай жменяй
сыпнуў
на небудзёнlны Будслаў.

Мальбу
паўторыць рэха гулка,
стакроць
душу мне ўсхалыне.
Душу,
што прагнула прытулку.
Яна знайшла
яго ўва мне.

Жыву –
як з імшы вяртаюся.
Ці не дарэмная
праца?
Долю,
як дол лісце, мацаю,
Меней і меней
знаю ўсё.
Ад святаў
хілюся да святцаў.

Ты мяне,
я цябе парадаваў
весткай не новай,
вясёлы мінчук.
Ты гаворыш
балючую праўду.
Праўду гэтую я маўчу.

Тыражуй
невялікім накладам.
Засляпенне ў каго
ўваччу?
Ты гаворыш
банальную праўду.
Праўду гэтую
пракрычу.

Ў крывавым
Скарачэнні мышцаў
Сябе ці даганю, ці праганю…
У белым сне
Мне вершам белым пішацца…
Блакітнага світанка
Мне не лішні час…

Тры колеры здабытага агню.

Між ударамі сэрца –
дажджоў
крокі сціхлыя.
Сэрца хоча даверыцца
крокам высахлым
іхным.

Між ударамі сэрца
распазнанай трывогай
цішыня адгукнецца.
Ты маўчала
так
доўга.

Што кахання
замала,
насумнеў падаецца.
Ты ж напраўду кахала
між ударамі
сэрца.

Кропля жыцця.
Кропля выхаду.

Кропка сыходу.
Кропка небыцця.

Між белых снягоў –
Зялёныя льды.
Зялёныя вочы –
Між белай усмешкі.

Столькі хмар,
І няма дажджу.
Столькі слоў,
І няма паэзіі.

Адчуўшы зло,
Мы за парэнчы зла
Спрабуем ухапіцца.
Апірышча пустэчы.

Адчыняю.
Дзіўлюся.
Крочу.
У кішцы вакон няма.
Вокны ёсць у душы –
Вочы.

Палонны замерзлага возера –
Ахрыплы трыснёг прамаўляе
Хоку колеру хакі.

Шлях не губляецца.
Губляемся мы.

Здрада і ноч
Раніцай
Аб сябе спатыкаюцца.

І гэты дзень
Аддаю
Ночы…

Чэрвень.
Пярэспа.
Вечар.
Пяшчоціць таполевы пух.
Марыць і плакаць
Аб нечым
Лягчэй, калі вы ўдвух .

Калі
Набрынялыя стомай
Сэрцы гатовы змаўчаць,
Збылое даруй другому,
У прышлым
Другому дарадзь.

Калі
Незбянтэжана й плыўна
Пасля гаваркіх перуноў
Пачуццяў таемных
Хвіліна
Звякуе ў Свіслачы
Зноў.

Іду,
як дождж,
не даляцеўшы
да зямлі.
Я лісцем шапаткім –
табой
спайманы.

Датуль душа чакае,
пакуль жывая.

Тут пэўна быў.
І быў тут грэшны.
Як жэст быцця
Недарысованы.
Як недапісаныя вершы.
Як недачытаныя словы.

Снег успаміну адлётаў.
Палёгся празрыста і чынна.
Па белі,
Па ценях,
Ля плота
Прасцежвае Вечнасць
Жанчына.

Я – сум.
Ды часта смехам слыў.
Дарогу праз сумненне
Торыў.
Там, дзе сыходзяцца
Часы.
Там,дзе сыходзяцца
Прасторы.

І ўглядаўся
У сябе –
Такі ўпэўнены
І ранні.
Трывалеў духам,
Не слабеў,
Рассмешаны
Адлюстраваннем

У гэтым
Мной няўцямным часе,
У гэтай
Зніклівай прасторы
Я – сум –
Між імі заблукаўся,
Я – смех трапёны –
Іх сабораваў.

З прадзедаў, з дзедаў,
З бацькі і з маці,
З роду праз род,
З учора ў сёння,
З сёння ў заўтра,
З плыні ў плынь,
З думкі ў думку,
Нязведаным тропам…

Іду ад сябе да сябе.

О жанчына!
Нябёсаў чало.
Неспасцігнутасцю незямною
Зачараваны я.
Ад чаго
Ты і побач
І ты – нада мною.

Найдзіўоснае дзіва з дзіў!
Ад цябе –
Ніякіх засцярогаў.
Кампазіцыя
Нумар адзін –
Ты.
Сыграная Панам Богам.

…І заставацца абяцаным.

## ІНАКАСЦЬ

У вёсцы нашай,
Дзе жылося звыкла,
Дзе час штурхаў
І час марудзіў,
Дзе людзі
Спрэс былі як людзі,
Ўсялякаю душой
Караляваў муз**ы**ка.

Дзе падвячоркам
Моўклі матацыклы,
У зоркі йшла
Азяблая віднеча,
Аб патайным
І невымоўным нечым
Гармонік
Голасам гучэў нязніклым.

Як на адведках,
Так і на вяселлі,
Усмешна смокчучы
„Казу” з махоркай,
Пад пацалункі
І пад крыкі «горка»
Муз**ы**ка
Захмяліць умеў без хмелю.

Інакасцю
Яго гарэлі вочы.
І пальцы
Ноты-думкі выплята́лі.
Пачуццяў лучных
Гойдаліся хвалі –
Разваг мужчынскіх,
Мроіваў жаночых.

І быў той дзень
Сланечны і вялікі.
Спявала Вечнасць
Долу багавейна.
Мне пэўна чулася
У песні ейнай:
Інакасць м**у**зыкі –
З інакасці муз**ы**кі.

## КАЛІ ТЫ НЕ ПАСПЕЕШ

Ты некім пастаўлены
На перадмосце.
Няважна – з гасцей ты
Ці толькі ў госці.
Да вечнасці выйшаў,
Ідзеш з небыцця,
Каб толькі заўсёды
Нешта маглося.
Каб толькі хоць крыху
Трымаўся знацця:

Перасьлядзіць і перапісаць,
Пераглядзець і перапытаць,
Перачытаць і перайначыць,
Перасмяяць і пераплакаць,
Пераслухаць і пераўшчуваць,
Пераживіць і перажагнаць,
Перагтварыць і пераспяваць,
Перасякчыся і перасядлаць,
Переразвычаіць і перагнуць,
Пераўвасобіць і перасягнуць –

Ніколі ніхто не зможа,
Як ты, калі ты не паспееш.
І дай табе вытрымкі Божа –
Па-людску, да часу і гожа
Пажаць, што, магчыма, пасееш.

## НЕ ТРЭБА, СЫН, АДЧАЙВАЦЦА

Не трэба, сын, адчайвацца,
Ці данясу я крыж Айца.
Дарога скарачаецца?
Дарога скарачаецца.
А неба... Неба без канца.

На адлегласці
Працягненай рукі –
Прага чалавечага даверу.
Ды ніхто напоўніцу не змераў,
Велічны здабытак той
Які.

На адлегласці
Звычайнага быцця –
Адчуванне зніклівасці ў часе,
Радасці,
Якой ты насычаўся,
Суму,
Што дашчэнту не працяў.

На адлегласці
Пяшчотлівага шэпта
(Ад яго ўзвысіцца й прапасці!) –
Узрушанне нястрыманае жарсці,
Ціха некім,
Можа,мной апетай.

На адлегласці
Пяшчотлівага шэпта…
На адлегласці
Звычайнага быцця…
На адлегласці
Працягненай рукі…
Вякі.

## РАМАНС

Абрыс
учарашняе ласкі –
абрусам
на белым стале.
Пах вуснаў
гарэзліва-панскіх
тваіх
сёння зноў паўстае.

І пад гітарныя гукі
цябе,
як віно, пра запас
я п’ю.
І пагляды, і рукі,
і струны –
ў апошні раз.

Абрус
прападае, як ветах.
Як вета –
учарашні раманс...
Недаспяванае лета
восені ўспомніць
пра нас.

## ЛІТАРА ДАЛЯГЛЯДУ

У заўтра
мы дні пазычаем.
Навошта
Творца прыдумаў,
каб водгукам
тла і адчаю
падала
літара суму?

Не сёння,
дык заўтра б хаця
паўстала
з агульнага раду
прадвесцем
надзей і жыцця
літара
далягляду.

## КРЫЛО БАЛІЦЬ

На сподзеў –
з заўтра ў сягоння –
Найвышні
перакінуў ніць.
Анёлы,
зрынутыя ніц,
сябе ніяк мы
не дагонім.

Крыло баліць...
Крыло баліць...

## ТЫ

У забыты сон
я нацянькі
вярнуся,
можа, й незаконна.
Збылога поўныя глякі.
Пачуцці.
Гукі.
Матылькі.
І ты –
нібыта заваконна.

І я – нібыта прашаптаў
няўпэўнена,
зайсці ці можна.
Пачуцці.
Рукі.
Стылы стаў.
І гаваркая немата
ў прадонні неба –
запарожна.

І што бязгрэшны –
не мані,
з усіх адна перадумова.
Не трэба
клятваў, слоў, ані…
Салёны вецер.
Камяні.
Сцяжынка.
Ўсё – пазажыццёва.

Збылое льецца
цераз край.
І не пытай,
каму заплочана.

Сабе, як жабраку,
падай...
Забыты сон.
Грачыны грай.
І ты.
Як вечнасць.
Зааблочна.

## КУПАЛЛЕ

Абсяг у высі
Зеўраў.
Купалле
Дух ахвоціла
У дні
Найменшай цемры,
Ды ў начной
Цямноце.
З гары каталі
Кола,
Вянкі жыцця
Сплягалі,
Купацца беглі
Голыя
І славілі Купалле.
Каб сёння,
Не збылое
Яснела небадолам,
Мы разамкнулі
Кола –
І стаўся час
Стралою.

Я гару ля цябе
як свяча, і
цяплее маёй
душы.
У спакоі,
а не ў адчаі
плынь кахання
не засмучаюць
нават шэрых бядот
катышы.

## АДПІ

– У кожным дні
Свая наўмыснасць, –
Мой дзед казаў, –
І помні:
Нясмачна тое,
Што карысна.
Без ценяў –
Толькі промні.

Як безгалосы –
У муз**ы**кі
Не мкніся,
Жыві такім.
Не бяздушным,
Не без’языкім.
І птушак
Кармі з рукі.

Мой дзед казаў мне,
Што здаўна
Быў запавет
Няхітры:
Жыццё не ёсць
Твая віна –
Адпі
І кубак вытры.

…А часткі
ў цэлае зводу.
Ты новай еднасці
не руш.
Вітаецца
свавольства дум,
ды толькі
не свавольства душ.

звініць струна
звініць струна
звініць струна
як верш
мая віна
мая віна
мая віна
найперш

надзея сноў
надзея сноў
надзея сноў-замоў
як дзеяслоў
як дзеяслоў
як дзеяслоў
ізноў

злучае нас
злучае нас
злучае ўначы
у гэты час
у гэты час
у гэты час
маўчы

калі мяне
калі мяне
калі мяне
мінеш
усё міне
усё міне
не знікне толькі
верш

## ВЕРУЙ

Куды б шляхі ні павялі,
На ўсё жыццё выснова:
Адна бывае на зямлі –
Матуліна замова.

І што б чыны ні нараклі
І сейбіту, й паэту,
Да скону веруй на зямлі –
Ад бацькі запавету.

Святы
альбо грахоўны самы
народ
у белай Беларусі?
Мы –
ненамоленыя храмы.
Сказаць яшчэ мацней –
баюся.

Зло дабром звычаіцца.
...Ляціць за сваім ценем,
Як бліскавіца,
Белая чаіца.

Бясконцы хайтэк мітусьні
І – рамантычна-старое:
Сябе я толькі прысніў,
Цябе я толькі прымроіў.

Божухна,нас барані!
Ад стомы душы.Ад заморы.
Мой след не згарыць у агні,
Калі яго нехта паўторыць.

Твой след не змаркоціцца ў тле
І водгуллем голас твой стане,
Каб заўтрашні свет прасвятлеў
За нашым апошнім расстаннем.

Яблыкі спелыя!
Антонаўкі хрусткія
Сабраць нахілюся.
О дух Беларусі!
Шчарованы спевамі
Пад зорнаю хусткаю…

Крутыя лесвічкі.
Ля свечкі –
Крок,
І прыхавана мга.
Няпэўна – нельга.
А напэўна – льга
Іграць з ліста
І танцаваць ад печкі.

І згублены,
І зноў знайдзёны,
І сам сабою
Уваскрэсены,
Закрэсліш,
Што даўно акрэслена,
І мроя станецца
Надзённым.

Твая з сабой
І з Богам спрэчка
Не скончана,
Як і хада,
Душой пакуль
Не ўхаладаў,
Пакуль
Твая
Палае свечка.

Удзячна
Восень у вясне чакай,
Твар**ы** са слоў,
Як з гліны,
Штуку.
Душу сваю
У гліну ўхуквай,
Пакуль
Твая
Палае свечка.

На ўскрайку мелодыі
Майго голасу –
Спрэс хараство цішыні,
Насьцярожана-ветлівай,
Нікім не заўважанай,
Як на пачатку
Маўчання…

Гук адзінокага ледзяша
Апаў у паўночы
І выстыў.
За ценем тваім
Мой цень прыспяшаў
Адзінокі.
Каб стаць дваістым.

З гадамі стала
Так баязнавата
Да промняў дакранацца
І да слоў.
Да кволых душ
Людскіх.
Паміж людзьмі і датамі
Яны блукаюць,
Як сярод лясоў.

Ніхто не ведае, калі
Лагодзяцца нябёсы.
Мы ўсе габрэямі былі –
Выгнаннікамі лёсу.

## НА ДАРОЖКУ

Ад збалеласці
Хмараў-часін
Грамы
У нябёснай ступцы
Б'юць.
...Немагчыма дайсці
І немагчыма вярнуцца.

І хочацца прыпыніцца
Пад зоркай
Самай высокай,
На беларускім
Гасцінцы,
Ля гаваркога вытоку.

Небрутальным
Мужчынскім плачам,
Нязмушаным,
Некрыклівым,
За плынь вытоку аддзячу,
За празрыстасць
Кожнага звіву.

За тое,
Што чуе шчыра
І слабасць тваю дарує.
І ўсміхнешся,
Мужчына,
На дарожку,
Яшчэ даўгую.

...Брыду
Па апалым лісці,
Па жыцці –
Нехаджанай вулцы.
І немагчыма дайсці,
І немагчыма вярнуцца.

Пятага ліпеня,
На пляцы Волі,
Дзе таполяў сцішаных
Гонкія станы,
У цэнтры горада,
Не ў чыстым полі
Вачыма тваімі
Я быў расстраляны.

Нязбыўна і руда
Кастрычнік брыдзе.
Чаканы,раптоўны,
Як выдых,
Халодны.
Ты з ім ля тэатра,
А можа,нідзе
Згубіла мяне
І сябе, верагодна.

Ты пэўна маё,
Я – тваё адгалоссе.
У звыкласці дзён,
У сваёй чарадзе,
З неапошняй надзеяй
Неапошняе восені
Нязбыўна і руда
Кастрычнік брыдзе.

Няшпарка пакрочу
З Траецкай гары
У роздум самотны,
Нібыта з Парнасу.
Па-восеньску страчу
Юнацкі парыў
Па шолаху лісця,
Па шолаху часу …

Дай мне ўпасці
Далавах!
Нагаварыць
Цвярозых глупстваў.
Ці захмялелы
Каб засмяг
І каб было
У кішэнях пуста.

Дай мне ўпасці
І маўчаць.
Ні трапным
Каб не быць,
Ні тлумным.
Сур’ёзнасці закінуць
Снадзь
У зніклыя з дзяцінства
Гумны.

Дай мне ўпасці.
Толькі раз.
Хоць недарэчна
Спатыкнуцца.
Жыцця
Нясмешны пераказ
Ператаўчы
У вечнай ступцы.

Дай мне ўпасці.
І ўкрык
Паслаць усё і ўсіх
Далёка …
Для ўсіх
Зваротны ёсць адлік.
Мне б толькі раз
Пазбыцца клёку!

Дай мне ўпасці.
Да званоў.
Душу каб да крыві
Абдзерці.
Да смерці,
Да жыцця гатоў.
Дарэмна толькі б
Не ўмерці.

Дай мне ўпасці …

Над вязам,
нібы над касцёлам фарным, –
вяртаю пачутае
птушцы-мінчанцы:
– Не ўсе, сапраўды,
спалучаюцца фарбы
і людзі не ўсе спалучаюцца.

Мы рознага лёту.
Мы з рознага лета.
І зімы розныя нас халадзілі.
Ды цешымся словам
прыўкрасным
шляхетна
яшчэ незабытае
мовы адзінай.

Акно адчыніў.
Не ставала
Духу зямлі.
Мой настрой –
Няспраўджанае ліставанне
Душэўнай стомы старой.

Супярэчліва-неадпрэчнае…
Не лістапад – лістабой…
За вакном –
Прадчуванне вечара.
Некага не хапае і нечага.
Не з табой.

## ПЛЕШЧАНІЦЫ

Быў мястэчковы ранак.
Пад дымам дом прысеў.
Быў цаліковы снег
І свет нетурбаваны.
Званоў цымбальных зовы,
І з імі галаснеў
Бясколерны сусвет,
Працяг шматкаляровы.

Не так ляцеў…
А як – наадварот?
Сур’ёзнасць я цвяліў
З усмешкаю дзіцячай.
Падгледзеўшы
Вятроў непаслухмяны лёт,
Нязніклівасць яго, нябачнага,
Убачыў.

Дзіўлюся простаму,
Вясёлы й грэшны.
Мудрэю, як смяюся,
Бо з чаго б
Сваю далонь
Жыццё кладзе з усмешкай
Мне на задумнае,
Смяшлівае чало?

## АКРАВЕРШ

**Р**аззняволіцца ўтрапёная душа,
**Ы**кне, непасільны  пуд падняўшы,
**Г**рому й вершу белых яблынь нашых
**О**думна пачне перапрашаць.

**Р**азгавеецца хадой бесперастаннай,
**У**сміхнецца цуду спасціжэння
**Б**огу й люду моўленымі кстамі,
**А**цураўшыся грахоў цяжэнных.

**Р**аспачаўшы бохан дня і хлеба,
**А**крылёным і пакутным тропам
**Д**а бадзяк, не спадароў вялебных,
**У**звысіцца прыветна, нетаропка.

**Л**аскай чалавечай і звярынай,
□снасцю ўстрывожанага клёку
**Н**азаўсёды – нізка і высока –
**У**глыбіцца вачыма-азярынамі.

У закуце, у цішыні
Абняможанае кола
Ўжо не коціцца:
Па дні
Стала паслядоўем
Кволым.

Брукі,
Наледзь,
Каляіны
Ўспамінае кожнай спіцай,
І не шлях крывы, змяіны –
Небакрай – як вобад –
Сніцца.

Як рытуалы з „Кнігі Перамен",
Як рух да выхаду
Ад самага ўваходу,
Хоць ты і не з біблейскага народу,
Каханне ўзвысіць
І каханне перамне.

Малое сыйдзе, каб вялікаму прыйсці.
Душа паніклая з нічога ўваскрэсне
Ад снегавых
Схалодненых прасцін
Да слоў неразгаданых
„Песні Песняў".

Ці рок цябе,
Ці ты рок паспытаў,
Лявіцу не паблытаўшы
З правіцай?
З дарожнага не піў ты
З капыта?

А з д'яблавага
Хтосьці змог
Напіцца…

Не далягляд цябе,
а ты яго састарыў.
Ты йшоў –
ён далячэў табе здалёк.
І далячэлі прымхі,
праглынуўшы мары,
і старыўся
нераспачаты крок.

На хітрых
асфальтах горада,
на высахлых ценях дажджоў,
пад кронамі
громных аблокаў –
мастацтва нябачнасці,
мастацтва
зачыненых душ.

# НА ДЗЯДЫ

Не восень,
час абтрасе
лістоўе –
у ім воля якая!
З паміраннем
не зводзіцца свет,
з нараджэннем
не ўзнікае.

Зноўку
вітаеш снягі,
усім пакаленням
адкрыты.
Кладзеш,
як цяжкія даўгі,
гваздзікі
да дзедавых плітаў.

Бяссонніцу тваю
Не скраду.
Немагчыма
Бяссонніцу скрасці.
Як долю.
Як шчасце.
Бяду.
Вечнасць і пазачассе.

Бяссонніцу тваю
Не звяду.
Каханне немагчыма звесці –
Сподзеўны край прыдум,
Вёснаў
І няпройдзеных весніц.

Па бясконцасці йдзе
Паломніцай
Твая і мая
Бяссонніца.

АДЧУВАННЕ

1.
Колькі ў доме ёсць музык –
зайграйце ўсе разам!

Гармоніста, фартэпіянна,
дудой душэўна-пагуднай –
гуд пачуць акіяна
і сцішанасць
гаманлівага люду.

Адчуванне музык выразна.

2.
Колькі ў доме ёсць музык –
краніце мяне паасобку!

Скрыпачкай сыпаніце,
тонам працяглым,
няскораным –
адчуць пранікнёнасць зліццяў
твайго і майго нораву

ва ўсялякім яго адсотку.

3.
Колькі ў доме ёсць музык –
не маўчыце ніводнаю
гамай!

Трымайцеся і трымайце
хату быццём не эстрадным –
у небе, а не на сайце,
лучнасцю, а не звадай…

Голасам кожнае
мамы.

Вэлюмам снежным
Акрыўся
Горад. Прыпынак трамвайны.
З вяснянай ўзрушанай тайны
Мне без цябе
Што карысці!

Такая ўся
Філарманічная –
Ты з акадэміі музыкі
А я ў пераходзе вузенькім
Грошы
У шапцы падлічваю.

Ні скрыпкі,
Ні акардэона.
Песню адну вясковую
З паганскім тэкстам-высноваю
З гармоніка цісну
Шалёна.

Пра тое,
Што зоркі не ўпалі
І жыць на зямлі не горка,
І прыйдзеш ты,
Босая зорка,
Паўторыцца зноўку
Купалле.

Маё старое  драпавае
паліто
даўно зраслося
са мной.
Стала мной.
Увасабленнем мары:
бадзяцца па свеце,
па шклоўскіх пагорках,
па ашмянскім бруку.
Паліто
гатовае без мяне,
ужо былога,
як сцень-невідзімка,
пайсці самахоць,
Адчуць пах
неспазнанай прасторы
і маёй самоты.

З кожным уздыхам,
крокам, паглядам,
страчаным нервам
урастаю ў сябе.
У дол, па якім крочу,
У воблака, у ластаўку –
вестаўку воблака.
У дзядоўнік.
У сям'ю.
У прахожых.
У гукі-званы
ўначэлай менскай ратушы,
у яе спрадвечныя быццам замовы,
у старасвецкія сцені ўспамінаў.
Урастаю ў камяні.
У карані і кроны.
У лісце.
У крокі.
У стаянне і плынь вады.
У ветрань і бязветрань.
У маўчанне задумнага маладзіка.
У салодкія вусны твае
пасля сметанковага марозіва…
Урастаю, каб некалі
быць вырваным
і пакладзеным.
Для новага ўзрастання.

Мінаю агароджы
То хітра, то сумленна.
З сябе ізноў выходжу –
У часе згінуць тленам.

Дзень з ноччу парадню,
Хоць час над тым рагоча.
А ноч дарue дню,
Як дзень дарue ночы.

З тых часоў,
З тых людзей,
З тых аблокаў,
З тых найменняў,
Што з намі рыфмуюцца,
Дух няўрымслівы вымусіў клёку
І слядоў
На замроеных вуліцах.

І чаканняў,
Нязнаных зняверцам,
І памкненняў –
Праз копшу і крушні,
І нязмушаных
Высілкаў сэрца,
І вызнанняў,
Нікім не парушаных.

А памятаеш?
У вар'яцтве жніўня,
Уначы, на пах і слых,
Адшукаў цябе,
Такі наіўны,
І заблукаў у руках тваіх.
А памятаеш?
У чыстым верасні,
Як туман над Свіслаччу
Зусім ачах,
З табою побач
Я цябе прыснію
І патануў у тваіх вачах.
А памятаеш?
У апошнім траўні
Мы гулялі – два аблокі.
Табе, як небу,
Ва ўсім патураў я.
І дзень быў нябёсны
І такі высокі.
А памятаеш?
Світанак віталі
Над Малкай,
Плешчаніцкай рачулкай.
Сэрцы нашыя біліся гулка…
А памятаеш,
Што будзе далей?

Купацца дзіцем
У дняпроўскім бродзе
Вярнуся,
Скуру скіну, як адзежыну.
І збыцца незбылому
Ды належнаму,
Усяму, што лёс зямны
Накарагодзіў.

Раку, нібы сябе,
Пераплываю.
І бераг даўнасці
Ва ўчора не пакінуты.
Цяпер з жыццём
Я не на «вы» – на «ты».
Аднекуль некуды
ды выведзе крывая.

Наноў вышэптваюць
Быльнёгу чараты
Сваю спрадвечнасць
Днямі і начамі…
Я набліжаюся
Да белага маўчання
І аддаляюся
Ад чорнай нематы.

Верш.
Рыфмуецца
З вяршыняй.

Прайсці сябе
І прэч сыйсці…
І не свяціцца больш
Бярозе пры дарозе?
Без мяне
На ганку
Прычаканай вечнасці.

Спрычыніся маёй нематы!
Спрычыніся і кроку, і крыку.
Адзінота, нібыта латынь.
Да яе мне ніяк не прывыкнуць.
Да хістання зацятых вятроў,
Да прыязнай маўклівай хітрэчы…
Ад вачэй адхрысціцца гатоў,
Ад якіх захвараў невылечна.

## ВЕСНАВОЕ

Прасцягі перайшлі ўсе
Далёкія.
Да ісціны сваёй
Прыспешвалі.
Мы лёсу аднаго
З аблокамі
І з камянямі нашымі
Тутэйшымі.

Усё  адно –
Тут хто каго паклікаў.
Тут даўніны
Ніхто не перайнача
Ад першага
Няўтрыманага  крыку,
Ад першага
Знароўленага плачу.

Дабрэлі перуны
Па-над лясамі.
Ад нашых галасоў
Мацнела рэха.
І беларускі шэпт
Ціхоткі самы
Быў чутны ўсім.
Быў Богу на ўцеху.

## АШАЛОМЛЕНЫ

Кветкай травеньскай –
Бэзам, бэзам
Да вакна твайго
Прытуляюся.
Я, спазнаўшы цябе,
Знаю ўсё.
Узнікаю.
Жыву.
Чэзну.

Ашаломлены сонцаваротам,
Закалыханы
Млявым месяцам.
За вакном мне б з табою
Месціцца
У духмянасці траўня
Употай.

І знайшоўшыся б,
Перахавацца.
Зноў згубіцца
І зноў знайсціся.
Духам быць
Уначэлай высі,
Тваёй любасці
Лепшым знаўцам.

Шчасце ёсць,
калі ты ёсць.
Гора ёсць,
калі ты ёсць.

Калі цябе няма,
няма анічога –
ні шчасця,
ні гора,
ні іншых
ёсць.

Ты ёсць
прысутнасць.
Ты ёсць
адсутнасць.

Завіхаўся
ў жыццёвай сяўбе.
Ды ўраджай
не заўсёды багаты.
А было –
спазнаванне як свята.
А было –
спасціжэнне сябе.

Заходзь, падарожнік!

Прынясі крыху пылу
спраўджаных крокаў тваіх,
абяцаных цалункаў,
згубленых дум
і тых, што толькі
ўзмысліў.

Мусіць, праходзіў ты
блізу пакінутых ліп
у вёсцы далёкай і даўняй.

З бацькам я іх пасадзіў.
Іх карані –
у стагоддзі дваццатым,
кроны – у дваццаць першым,
сокі –
са стомленай
вечнасці.

Пыл на падэшвах...

Заходзь!
Раскажы мне
сваю дарогу.

У нішто каб увайсці,
З нічога выйшлі –
Праз светлавод любові
Аж да цемні жарсці.
Для нечага ж
Спадобіўся Найвышні
Нам неба лусту
На далонь пакласці.

## ПАВУЧЫНКА

З начы ў ноч
І з дня ў дзень,
З маўчання ў маўчанне
Мой павучок па небе йдзе,
З зямлёй яго
Злучае.

На пуцявіне стромкай
Узрос, жыву і згасну.
Мы толькі абалонка.
Мы толькі выдых часу.

Птушкі як людзі,
Трымаюцца дарог.
Людзі як птушкі,
Трымаюцца неба.

Нябёсы вядуць адлік.
І каб узляцець,
З падскокам
Габрэі ўслаўляюць
Свой маладзік.
І я не смяюся
Зялёнавока.

Свой разгортваю
Беларускі сувой –
Тышчагадовым
Ліцвінскім ветрам,
Моваю нашай
Спеўнай і ветлай…

Са мной маладзік –
Усіхны і мой.

Небасхіл.
Небадол.
Далягляд.
Дай мне сілы,
Іду наўздагад.
Звечарэлую вечнасць
Я гушкаю:
– Спі хутчэй,
Бо патрэбна падушка.

Не сумую, а падсумоўваю:
Нас мечам любілі, агнём,
Нас любілі чужынскаю моваю.

Схітрыцца хоча
не памерці.

Да смерці.

Не светам,
А табою засляпіўся.
Не светам,
Больш табою быў сагрэты.
У свеце выпадковым
Я наўмысля
Перад табою
Грэбую сусветам.

Самы лепшы твой
суразмоўца –
ты сам.

І самы страшны –
таксама.

Мае два сонцы
на небе –
як чатыры.

Усё сталае жыццё
думаю,
якое з іх галоўнае.

Жыла мама,
і гэтае сонца
грэла днём,
а калі планета нябёсная
чэзла ноччу,
мама ўсё роўна
была.

Адышла матуля,
патухлі два яе сонцы.
А гэтае, нябёснае,
засталося.
І калі знікае ўначы,
я грэюся цеплынёй
поўні.

У яе позірк мамы.

Дрыжыць прастора,
А ніколі не здрыжыць.
І не згарыць зара,
Хоць зноўку дагарае.
Шляхі праходзім
І праходзім небакраі
І жыцці…

Увасобіцца ў крыжы.

Іду старой
увіўнай вулкай,
што Старавіленскай завецца.
Хадзе прыцішанай
не мулка,
а сэрцу …
Штосьці муліць сэрца.

Тут з даўніною
скрыжаванне.
Тут шлях
да нашае сталіцы –
да Вільні.
Толькі шлях падмане.
Ён зніклым мроівам
свяціцца.

Тут успаміну
дождж усхліпваў.
Тут настальгія
засмучае.
Дзе старавіленскія
ліпы –
як старасвецкія
звычаі …

Заместа тысячы сноў –
Зялёныя вочы твае.
І восені – час сунімацца
Нязмушаным шэптам дарадца…

Заместа тысячы сноў –
Зялёныя вочы твае.

Заместа тысячы слоў –
Сунічныя вусны твае.
І студзень смугой
Не імжыцца,
І месяц над намі
Бажніцай…

Заместа тысячы слоў –
Сунічныя вусны твае.

*Дзядам*
*Аляксандру і Яўхіму*

І хто парушыў
Першаслед?
Не быў адсюль ён.
Быў сюды.
Не быў сцяжынай
На клады.
Дык хто парушыў
Першаслед?

А хто парушыў
Першаслова?
З бязвер'я?
Ці з маны?
З мілосці?
З бяссілля?
Знізіць каб кагосьці?
Дык хто парушыў
Першаслова?

І хто парушыў
Першацвет?
Сарваў яго,
Такі нявінны,
Мілейшы цвет
Маёй радзіны.
Дык хто парушыў
Першацвет?

Завея распісала белым
Ўначэласць,снуючы радно.
Душа мая з тваёй звінела
Адно ў адно.
Адно ў адно.

Я нешта новае ўгледзеў
У звыкласці святла і змроку.
У заімжэлым лёгкім следзе
Тваім – мой лёс навідавоку.

Малю,каб ён не адступіўся,
Каб спеўнасць снегавых пялёсткаў
Не пакідала нашых высяў,
На лепшасць сённяшняга ўнёску.

Ад сваіх каранёў
Да сваіх вяршалін
Мы хацелі ўзрасці,
Ды, нямоглыя, краталі
Нерухавасць сваю,
Каб узрушваў калі
Хтосьці нас …

За маўчаннем.
Нібыта за кратамі.

Нябелым,
Нябелым светам
Нямілым,
Нямілым госцем
Ідзеш
І шукаеш штосьці,
І дзякуеш
Свету за гэта.

## НЕ ПРЫСПЕШВАЮ

Хто першы з нас
падмане
сябе?
Я не прыспешваю...
Да самага
світання
мы ў пошуках
кахання –
цнатлівыя
і грэшныя.

Чуеш?
Мой крок не прысталы яшчэ.
Бачыш?
Мой позірк зусім не самотны.
Што там гады!
Кружлянне лістоты,
даўняе памяці
сталы нашэпт.

Чуеш?
Мой голас пяшчотны і зычны.
Бачыш?
Я сэрца ніяк не спатолю.
І не растрачу
юнацкае звычкі –
цябе абдымаць,
трапяткую таполю.

## МАЛЫЯ ЛАЗІЦЫ

Лозы ніцыя,
Лозы ніцыя...
Далягляд–
Як душа наросхрыст.
Матулі маёй
Малыя Лазіцы
Досвіткам свецяцца
Ясным і росным.

Лозы ніцыя,
Лозы ніцыя…
Вы яшчэ ёсць,
І гэта дзівосна.
Вам,як і мне,
Небадолу маліцца,
Сланечным і зямным
Матуліным кроснам.

Лозы ніцыя,
Лозы ніцыя…
Пах ваш радзінны,
Пах лазовы
Мацней
Паўразбураных камяніцаў,
Трывалей за цьмяныя
Звыклыя словы.

Лозы ніцыя,
Лозы ніцыя…
Ад марнадумства
І ад скуголля,
Вы падкажыце,
Чым бараніцца.
Як не пазбыцца
Мовы і волі?

Лозы ніцыя,
Лозы ніцыя ...
Далягляд –
Як душа наросхрыст.
Матулі маёй
Малыя Лазіцы
Досвіткам свяцяцца
Ясным і росным.

Апошні гук
замкнёную прастору
з суботы на нядзелю
нагадае.
Убачыць я магу
з твайго спазору
твайго вакна:
з табою прападаю.

Апошнім гукам
неапошні вечар
злучыў мелодыю
вачэй і сэрцаў.
І знік, п'янкі,
ў захмар'і і зарэччы –
з другімі прытуліцца
і сагрэцца.

Цябе з суботы
да бясконцасці нядзелі
ў захмар'і і зарэччы
я адшукваў.
І кволая
была яшчэ надзея,
што вернешся назад.
І не апошнім гукам.

Прыбавіў дзён
Узнёслы роздум.
Самотны,пэўна,
Дзён адняў.
На хвалях часу
Мы штодня.
І кожны дзень –
І звыклы, й розны.

## СІМВАЛЫ

Як знак падатлівай журбы,
Як вешка старасвецкіх вёрстаў,
Як слова хісткае "абы" –
На полі гнуткі стан вярбы.
А дуб – як сімвал духаборства.

Выпадковыя ночы.
Выпадковыя дні.
Выпадковыя словы...
Я прыйду павініцца.
Я зраблю, што ты хочаш.
Хочаш – не праміні.
Я аднойчы гатовы
І забыцца,
І збыцца.

## ПІСЬМО

Спакуты лютым
выгін ветра.
Ягоны стын
празрысты бачу.
Азяблы Млечны Шлях
няйначай –
пісьмо
з касмічнага канверта.

## УСПАМІНЫ

Аршанскі край!
Мой спадчынны спаведнік.
Мне шчасціла з табой
у вечнасці сысціся.
Успаміны пазбірай
збылога напаследак,
як зёлку зверабой, –
нас лекаваць наўмысля.

Недагучэлы звон
намоленай Куцейны,
нявыбіты мурог
па-над старой Аршыцай.
Крапівенка здавён,
нібы крыжом нацельным,
які народ збярог,
мінуўшчынай свяціцца.

Мы купаны ў Дняпры.
Мы да сваіх аблокаў,
як дзедавы млыны,
прымроены крыламі.
Світальнае пары
нязмушанаму кроку,
хто сэрцам не ляны,
спрыяе спаміж намі.

## ПАВОДЛЕ АПАЛІНЭРА

Таемна,вясёла і дымна
У мітуслівай кафэшцы.
Кабацкая песня
Тут гімнам
І заклікі «піце» і «ешце!».

А што вы,панове,
Хацелі?
Да слоў не ўсялякіх
Ёсць вера.
Кафэ ў шэраговым гатэлі,
Бы ў вершы
Апалінэра.

Палі
Ці катлету надкусвай –
Імчы
Да пакояў-удоваў
Гіёма і беларуса,
Да асалоды
Мядовай.

Вэрхал тут
Шэра-слівовы.
У ім нехта
Неасцярожна
Бабілонскае дзіўнае мовы
Спасцігнуць
І хоча, і можа.

Той мацерным словам
Абніжыў,
А гэты
Лапоча каханкам,
Быццам бы ён
У Парыжы
Клеіць
Сваю палачанку.

## НЕ ЗГУБІЦЬ

Над саманадзейнасцю, над
Згубнаю хцівасцю бліжняга –
Біблейскіх радкоў пераклад:
Ад другіх не бяры ў заклад
Жорнаў – верхняга й ніжняга.

І трывала выконвай закон:
Ці хоць брат, ці д’ябал выпрошвае,
Як ні будзеш жыццём памкнён,
Душу не стаў на кон,
Каб не згубіць апошняе.

Ля попелу
сённяшніх дзён,
надзеяў
і страчаных мрояў
мне ўсё ж такі
ранак відзён,
малітва бліжэй –
не праклён.
З ёй вымалю веданне,
хто я.

# НАЎКОЛА

Імчыць жыцця
так багадарна кола.
Згараюць дні
ў таемнай варажбе.
Чакаеш,
што азорыць і цябе,
а ўсё мінае,
і ўсё – наўкола.

Наўкола дзень,
нібыта верш – начорна.
Наўкола смех.
Гарэзлівы нясцерпца,
у радасці чужой
ён захлынецца.
Ён хіжы воўк табе
і нікне ў прасторы.

Наўкола раніца.
Вітальны крык сарочы
зноў некага пасе
ў жыццёвай плыні.
Залева чысцінёй
на ўсіх нахлыне
наўкола. А цябе –
як нехта асурочыў.

Зацепліцца ўдача
раптам квола.
Я быццам бы падсеў
у сані далечы.
Наўколле існуе,
ужо не давячы:
ты да мяне прыйшла,
а не да ўсіх наўкола.

## МЕНСК

Па мне
праходзяць вуліцы,
машыны
і жанчыны,
душой
бадзяка туліцца,
цвярозаю,
магчыма.

Тут нечы розум
збродзіцца
ці тайнаю
спакусіцца.
Хто ўкленчыў
Багародзіцы,
а хто
прызваў распусніцу.

Тут даўніна
заплаткамі,
шчымлівая
саромніца,
душу
не ўпарадкуе,
зблукаецца,
успомніцца.

Аблокі тут
ламаюцца
дваровымі
квадратамі.
Майго жадання
травіца
надзею ў заўтра
сватае.

І не жыве,
а мроіцца
крыламі
нетрывалымі
тут цішыня.
Забойцы
яе звіняць –
трамваі.

Ля вогнішча
Жыцця твайго –
Майго жыцця
Нявысахлае дэнца.
Тут лёгка дыхаецца,
Весела смяецца
І верыцца
У праўду і багоў.

У белыя і чыстыя
Снягі,
Што саграваюць
Лютасць халадэчы.
У вечар,
Што світанку супярэчыў,
Былому дню
Вяртаючы даўгі.

І верыцца
У першародства нас.
І пілігрымкі
Браму адчыніўшы,
Сумнеўна,
Непаўторна і ўвішна
З нас кожны пражывае
Першараз.

Лёс ці трэба нам клясці
За брыдкія прыватнасці!
На зямлі – што ў небясі:
Можа, й болей лютасці,
Ды й не меней святасці.

Запаленай свечкі
Засціць радном,
Пад ложак хаваць
Ніхто не будзе.
Свечку ставяць,
Каб было відно
Уваходзячым з цемры
Людзям.

07.07.2007

Тры сямёркі.
Простыя знакі
маіх трох імгненняў,
запазычаных сёння
ў Вечнасці.

Ці то канчатак мы,
Ці то зачын?
Здалёку мы,
З апошніх далячынь.

Скончыцца,
Ды не перастане.
Паўтараецца дэжавю:
Я танцую вясёлы танец.
Я жыву.

Пётры, Зосі, Янкі, Касі.
Шчасце ўсім – сваячыца.
Учора нам бульбянілася.
Сёння ўжо каньячыцца.

Я, помніцца,
Учора быў яшчэ.
У сэнсе – жыў,
Як трыпуцень упарты.
Паглядам,абяцаннем
Дзень блішчэў
Наступны.
Сум перашываў
На жарты.

Падманваўся
Дзявоцкасцю быцця.
(Не праўду –
Болей любім мы падманы).
Вось я смяюся,
Вось я зубы сцяў,
Спазнаўшы шчасця
Прысмак нечаканы.

Асмягнуў духам
Ці агаладаў,
Як нехацімец
Ля куцці нішчымнай.
Ды зноўку
Святакрыла Каляда
Нагадвала,
Што трэба быць мужчынам.

Штодня ты –
Быццам музыка з ліста,
Ад існасці –
І вечнай,і раптоўнай
Сябе ўтрапёнасцю
Трывалеў і хістаў,
У подумках таемных
Занатоўваў.

…Я, помніцца,
Учора быў яшчэ.
У сэнсе – жыў,
Як трыпуцень упарты.

Над Свіслаччу
Святкуюць туманы.
Пісьмёны зораў –
Лістам недапісаным
У жніўні
Задуменна-аржаным
Цябе вітаюць
І збылым, іісным.

Не знайшоўшы цябе
Анідзе,
З дня пайшоўшы ў ноч,
Я не збочу.
У спакоі няўцешанай
Ночы
Пачывае няўцешаны
Дзень.

Маленькая думка
Да маленькага чалавека
Прыходзіць як акіян.

Раптоўнасць зорак –
Як раптоўнасць дум.
Ім мусіла са мною
Паўтарыцца
Імгненнем
Неспазнанай таямніцы
І Вечнасцю,
У якую перайду.

Не адыходзь,
не пакідай мяне
ў незамкнёнасці
мінорнага памежжа.
Пагляд мой,слых мой,
голас не міне
твайго,
што некалі і мне належаў.

Не выбаві мяне
ад весніх дум,
нанова ўзмысленых,
каб пачуццёвым лётам
крыяў і верыў:
на зямлю сыйду,
як здзіўлены Пярун –
табою і эротам.

Спрабуе
белым неспакоем
расквеціць яблынька
мой дзень.
Бясконцасць ціхую
надзей
вясной дазволена
прысвоіць.

## ВАРОНА

Давай пагаворым,
Варона шэрая,
У што ты верыш
І я ў што верую.

.......................

…На галіне чорнай –
Цень чарнаты.
Гойдаючы поўню –
Светлае родзіва,
Варона,
Птушка разумная ты,
Помніш,
Мяне ў тайну праводзіла?

Дзе вуліц няма
І накірункі вольныя,
І мудрасць не кажуць
Ні прама, ні ўскосна.
Яна там – як вецер,
І яе даволі там
У тваіх, варона,
І нашых нябёсах.

З быцця нішчымнага
І дух нішчымны?..
Птушка,
Каб ты мяне разумела!
Як чалавек пытаю
І як мужчына:
Духу жабрацкаму
Навошта цела?

Варона шэрая,
Што табе трэба?
Сумненне цябе,
Сумленне ламае?
Небам, птушка,
І я не грэбую,
Ды крылаў тваіх,
Крылаў не маю.

Жыццё
Недакрочаным следам
Імжыцца.
Бывае калядным,
Бывае нішчымным.
Штодзень – бег і лёт,
Заканчэнні, зачыны.
Без Бога ў сэрцы,
Ды пад бажніцай.

Імгненні збылога
У гронкі пазлучаны.
Мы лепшага лёсу
Чакаем як лёкая.
А блізкая мара –
Такая далёкая.
А словы бываюць
Такія балючыя.

Нашыя цені
З бясконцасцю роўныя.
Знікаюць у ветры…
Галіну калыша…
Одум…
Маўчанне…
Сподзеў…
І ціша…

Бо тая варона – я.

Боль і баль яна,
мая, цымбальная, –
баляваць боль прымусь! –
мая одумна-спавядальная,
недакаханая
Беларусь.

У далягляд
пагляд выплыньвае.
Трываю радаваннем тым.
За нашым сподзевам
святым –
няскрыўленая лінія.

Тут заўтра
намі прарасло,
світанкам волю выліла.
І вабіць далей
хараство –
няспрамленая лінія!

## ЗАЎТРА

Ускрычыць світанак
Крыкам птушыным.
Маўчаннем маім
Світанак змаўчыць.
Паўдзень прытуліцца
На тваім плячы,
Сусвету
Ласкавая парушына.

Я не без заганы. За ганак
Пайшоў. І пакуль не спыніўся,
Не ссучыўся і не спіўся.
Ці жвірам, ці полем узараным,
Не ведаю, позна ці рана,
Да Жукнева, Оршы, Хацькова,
Ашмянаў, Карэліч і Шклова
Прыйду да сябе –
У заранак.

... I сціпла
вывела сціло,
што слова
першае было.

Уцешна:
Нецялеснасць цемры
Твой набывае сілуэт.
Такой музычнасці
Санет!
Яго не я –
Сам Бог уцеміў.

Ды ўзрываецца штораз,
Пазблытаўшы і зоры, й лісце,
Твой смех –
Шалёны стыльны джаз.
Па ім знайшоў цябе
Калісьці.

Пад шэптам зор
Удвох на мосце.
Тут час прыстаў.
Тут крок прыстыў.
У спасціжэнні прыгажосці,
У адчуванні прастаты.

У зніклым часе разам мы.
І дзве душы –
Харом зямны.

Медную чашу
свайго цярпення
нетаропка ды хутка,
уначы і ўранні
я напаўняю,
схіліўшы калені,
па дарозе сваёй
каменьчыкамі назіранняў.

Светлых і цьмяных,
круглых і  гойстрых,
малых і вялікіх –
да немагчымасці многа
новых каменьчыкаў
і новых вёрстаў…

Чаша цярпення ўсё тая.
І тая дарога.

Ветрам вышаптанае,
Стаіць на мяжы
Быллё –
У грубачцы хораша б
Гарэла.
Днее подумкамі,
Спяшаецца жыць,
Каб стаць быллём,
Цявіна смелая.

## VITA SOMNIUM BREVE.

Жыццё – кароткі сон (лат.).

Пасеяны намі вецер
Зблукаецца ў дзённым дрэве.
Усё роўна
Не верым прыкмеце:
*Vita somnium breve.*

Сляды, жыццёвыя згукі
І сны
Як існае ўспомнім.
Вырастуць дрэвы і ўнукі.
*Vita somnium…*

Збыцца
Не з нейчай мілосці.
Няхай каласуе жыта
Гаспадару, не госцю.
*Vita!*

ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

*Бібліятэка*
*Саюза беларускіх пісьменнікаў*
*«Кнігарня пісьменніка».*
*Заснаваная ў 2009 годзе*
*Выпуск 44*

Дубоўскі Валеры Леанідавіч
НА ПАЧАТКУ МАЎЧАННЯ
*Кніга паэзіі*

Рэдактары: Рыгор Барадулін, Уладзімер Арлоў
Камп'ютарная падрыхтоўка: Ксенія Гуніна, Максім Дубоўскі
Дызайн вокладкі: Валеры Дубоўскі

Падпісана да друку 29.04.2013. Фармат 70x100 1/24
Папера крэйдаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10
Ул.-выд. арк. 4. Наклад 1000 асобн. (1-шы завод 500)
Замова

ISBN: 978-985-6802-65-5

9 789856 802655

Выдавец ЗАТ «Юніпак»
ЛИ №02330/0150278 ад 03.05.2008 г.
Вул. Старажоўская, 8, п./скр. 69, г. Мінск, 220002, Беларусь
Тэл./факс: (+375 17) 281 46 98
(+375 29) 610 45 55
unipack.d@gmail.com

Друкарня «Палікрафт»
ЛП №02330/0494199 ад 03.04.2009 г.
Вул. Кнорына, 50, корп. 4, п. 401а, г. Мінск, 220103, Беларусь